# Самапомач Гатарорпас

*Беларускі папулярна-гаспадарскі часапіс*

Год VII. Вільня, Чэрвень 1938 г. № 6 (80).

*Аб чым піша «Самапомач»:*



Рэдакцыя і адміністрацыя: Вільня (Wilno), Завальная вул. 1.

# Каталіцтва і зямельная рэформа

*(З прычыны выступленьня Грамадзкай Рады пры Прымасе Польшчы*).*

Хоча хто ці ня хоча, а зямельнае пытаньне з кожным днём становіцца ўсё больш пякучым. Цікавяцца ім сяньня ўжо ня толькі вучоныя ў ціхіх кабінэтах, ня толькі адна-другая лёкальная (мясцовая) арганізацыя, таварыства, партыя; цікавяцца гэтай справай ужо і інстытуцыі характару агульнага. Адным з доказаў такога зацікаўленьня зьяўляецца **заява**, з якой у канцы мін. 1937 году выступіла г. зв. Грамадзкая Рада („Rada Społeczna“) пры Прымасе Польшчы. Гэта заява заслугоўвае на тое, каб аб ёй сёе-тое пачуў і чытач-беларус. Тым больш, што як ня дзіўна, а польскія нават афіцыяльна - каталіцкія кругі неяк аб ёй або зусім маўчаць, або калі й гавораць, дык робяць гэта неяк быццам стыдаючыся. Гэтак прынамся пастуціў цэнтральны орган польскай г. зв Катал. Акцыі „Ruch katolicki“ (№ 12, 1937, Пазнань), зямяшчаючы гэту прынцыповую заяву пры канцы сшытка, у аддзеле ...m i s c e l a n e a (усячына).—Але бліжэй да справы.

Каталіцтва, як сыстэма, выказала свой пагляд на вырашэньне работніцкага і агулам гаспадарскага пытаньняў у ведамым пасланьні (энцыкліка) „Rerum Novarum“ папы Лявона XIII-га. Вывады гэтага пасланьня, з прычыны ягоных 40-ых угодкаў, распрацаваў і паглыбіў сучасны папа Пій XI ў пасланьні „Quadragesimo Anno“. І гэтыя якраз пасланьні паслужылі за аснову пры апрацаваньні ўспомненай заявы.

Бярэ яна (заява) пад увагу варункі ў польскай вёсцы, што практычна бяручы сягоньня адносіцца і да вялікае часьці вёсак беларускіх, і складаецца з 14 пунктаў, якія можна было-б падзяліць на дзьве няроўныя часьці. У першай (меншай) часьці сьцьвярджаецца цэлы рад недахопаў вёскі, на якія ў другой часьці даецца рада. — У лік недастаткаў заява залічае: нізкую культуру сельскіх гаспадарак, іхнюю неаплатнасьць, малазямельле, церазпалосіцу, перанасяленьне і г. д. Усё гэта, па думцы аўтораў заявы, стварае варункі неладу, каторы, каб направіць, трэба, між іншым, правесьці „рэформу нутранай структуры зямельнай уласнасьці“, колёнізацыю, прырэзку зямлі малазямельным.

Дзяржава павінна клапаціцца аб справядлівы падзел дабра і кантраляваць дабравольнае арганізаваньне самастойных дробных гаспадарак. Каліж-бы аднак буйныя ўласьнікі дабравольна не хацелі адступіць патрэбных на такую парцэляцыю абшараў, дык дзяржава можа іх выкупіць за „слушную цану“ **пад прымусам** і пасьля распарцэляваць. Згаджаючыся на гэткі прымус, заява засьцерагае, што стасаваць яго можна толькі выняткава. Урэшце, паўтараючы за папай Піем XI, што „вялікія рэформы канешныя і павінны быць хутка праведзены ў жыцьцё“, Грамадзкая Рада выказваецца за тым, што сягоньня найлепшым ёсьць лад корпарацыйны.

Гэтулькі Грамадзкая Рада. Новага тут, як бачым, нічога няма. Заслугай-жа ейнай ёсьць бясспрэч-

---

*) Прымас — гэта найвышэйшы прадстаўнік катал. касьцёла ў каторым-небудзь краю, у дадзеным выпадку — у Польшчы.

# Дзень Коопэрацыі

Дзень Коопэрацыі ў Польшчы абыходзілі сёлета 12 чэрвеня. У большасьці дзяржаваў Эўропы гэты дзень празначаецца на першую нядзелю м-ца ліпня. А ёсьць і такія старонкі, дзе сьвята коопэрацыі абходзяць зусім у іншым часе, напр. увосені. Рэч аднак ня ў тым, калі гэты „Дзень“ ладзіць, а ў тым, як яго ладзіць.

Агульна прыняты парадак такіх сьвяткаваньняў між інш. прадбача: падлічэньне здабыткаў коопэрацыі за час мінулы, выказаньне, што ў гэтым часе было добрым, што менш добрым ці проста благім і, што можа найважнейшае, выпрацаваньне плянаў дзейнасьці на будучыню. Гэткім у істоце сваей быў і апошні Дзень Коопэрацыі ў нашых меншых і большых коопэратывах.

Дзень гэты аднак ужо мінуў і нам тут астаецца толькі глянуць на коопэрацыю быццам з боку.

Што такое коопэрацыя?

Коопэрацыя гэта сьведамае, дабравольнае супрацоўніцтва людзей.—Ужо гэта адно выразна кажа, што праўдзівая коопэрацыя можа разьвівацца толькі ў асяродзьдзі людзей культурна-сьпелых, бо такія толькі людзі здольныя працаваць супольна бяз прымусу. І наадварот, там, дзе адзінка людзкая ня мае свабоды сама разьвівацца, дзе яе агранічаюць розныя бюракратычныя загады і наказы згары, там праўдзівая коопэрацыя не разаўецца.

Маем падставу думаць, што чытачоў сваіх знаем прынамсі на гэтулькі, каб сьцьвердзіць, што яны добра разу-

на тое, што не ад учора ведамае каталіцкае становішча да справаў гаспадарчых у пару прыпомніла. Важна гэта для кожнага наагул; тымбольш, для селяніна беларускага ў межах Польшчы, а такжа для кожнага, хто цікавіцца ягонай доляй. Кожнаму сяньня павінна быць ясна, што дамаганьне зямельнай рэформы гэта зусім ня нейкая страшная „рэвалюцыя“, але цалком праўнае жаданьне нашага чалавека жыць палюдзку.

# „MAISTAS“

Asnovaj narodnaj haspadarki Litoŭskaj Dziaržavy jość ziemlarobstva. Tamu ŭrad litoŭski i ŭsio hramadzianstva vielmi starajucca padniać kulturu i vydajnaść hetaha ziemlarobstva. Aprača hruntoŭnaj pierabudovy ziamielnaha ładu (parcelacyja, komasacyja, melioracyja), adnačasna pačata była praca nad padniaćciem uharu pradukcyi zbažovaj, pašnaj i hadaŭlanaj.

U rezultacie hetaha paŭstała pytańnie, jak i kudy pamiaścić hetu pradukcyju ŭnutry kraju i za jahonymi hranicami. Inakš kažučy vyrasła patreba sarhanizavańnia pieratvorstva i zbytu ziemlarobskich pładoŭ. Heta vymahała šmat trudoŭ i enerhii, bo ŭsio treba było pačynać ad asnoŭ.

U toj čas uvieś handal, vielmi razdrobleny, byŭ u rukach pryvatnych, najčaściej nialitoŭskich, zusim niepraktyčnych, asabliva na rynkach zahraničnych. Tavar niestandaryzavany (biez padboru), anonimovy (biazimienny) — na bolšuju metu nia moh zdabyć naležnaha miesca ŭ zahraničnaj konkurencyi. Tymčasam interas dziaržavy vymahaŭ jaknajbolšaj ekspansyi eksportu (rasšyreńnia vyvazu), kab zdabyć hrošy na adbudovu kraju. Pierarobka ź ziemlarobskich pładoŭ była abo zusim niakranutaje, abo tolki pačynałasia (kooperatyŭnaje małačarstva)

Z časam adnak pačałasia arhanizacyja i hetaj haliny haspadarskaha žyćcia. Małačarstva vyrasła praz kooperacyju, a pierarobka i eksport rešty praduktaŭ žyviołahadoŭli stałasia polem pracy sarhanizavanaj inicyjatyvy pryvatnaj.

18 krasavika 1923 h. ŭ Koŭnie była zasnavana akcyjnaja supałka z nazovam „Litoŭskaja Akcyjnaja Supałka dziela eksportu Jajok i Praduktaŭ Spažyvieckich—Maistas“, z asnaŭnym kapitałam 500.000 litaŭ (5.000 imiannych akcyjaŭ pa 100 litaŭ kožnaja). Meta supałki, jak padavaŭ

меюць, у якіх варунках разьвівалася і існуе коопэрацыя па вёсках беларускіх. Дадаймо тут толькі, што гэта коопэрацыя, хоць аб'еднывае сялянства беларускае, то аднак беларускага характару ні ў чым не праяўляе. Свайго беларускага саюзу коопэратываў, так як апрача палякоў у Польшчы маюць :немцы, жыды, расейцы, украінцы, нашым коопэратывам сарганізаваць ня прыйшлося, без найменшай іх самых у гэтым віны. Прыходзіцца жыць і працаваць належачы да саюзаў польскіх. Гэта сягоньня ў нас адзіная магчымасьць. У гэтых варунках праца поўнапрадуктыўнай быць ня можа. А каб ейную прадуктыўнасьць падняць, трэба **ўсьведамляцца** — як у сэнсе фахова-коопэратыўным, так і ў сэнсе агульна-людзкім. І адно і другое асягнуць памагае родная беларуская „Самапомач". Сюдою найпрасьцейшая дарога да праўдзівага скоопэратызаваньня нашай вёскі і да асягненьня з коопэрацыі ўсіх карысьцяў — ня толькі матар'яльных, але і духовых. Сюдою шлях да пераўзгадаваньня людзей на сьведамых і адказных грамадзян свайго краю.

Дык пазнайма праўдзівую коопэрацыю! Працуйма для коопэрацыі і ў коопэрацыі!

## Сьвяткаваньне Дня Коопэрацыі ў Рачканах

Ужо неяк уваходзіць у звычай, што сьвяткаваньне Коопэратыўнага Дня ў Баранавіцкім вокрузе найбольш гучна праходзіць у вёсцы Рачканы, Ляхавіцкай гміны. Звычай гэты пачаўся ў 1935 годзе і з кожным годам гэта сьвята набірае большага размаху ўшыркі і ўглыб.

Сёлетняе сьвяткаваньне перайтварылася ў вялікі фэст, як у нас гавораць. Адбылося яно на Сёмуху, дня 5 чэрвеня 1938 г.. І хоць з прычын мясцовых афіцыяльны тэрмін сьвяткаваньня Дня Коопэрацыі прысьпешаны ў нас быў на тыдзень, аднак палучэньне яго з двума днямі сьвят Сёмухі (каталіцкай), было пэўным плюсам для цэлага сьвята.

Праграма сьвяткаваньня складалася з трох частак: 1. Акадэміі, 2. Спартовай часткі і 3. Прадстаўленьня і танцаў.

На акадэмію зложыліся: адсьпяваньне і адыйграньне грамафоннай пліткі коопэратыўнага гімну, прамоваў і дэкламацыяў. З прамовамі выступалі: кіраўнік мясцовай пачаткавай школы Ян Кэндзерскі і кіраўнік коопэратывы Патаповіч Янка, прамову каторага прысут-

---

statut, była nastupnaja: 1. eksport litoŭskich jajok i zasnoŭvańnie addziełaŭ i składaŭ u Litvie i zahranicaj dziela skuplivańnia i pierarobki jajok na vyvaz, 2. padniaćcie litoŭskaj hadoŭli kurej, 3. eksport vyrabaŭ małačarskich i 4. handal hetymi praduktami ŭnutry kraju.

Adnak užo pa kolkich miesiacach (5 śniežnia 1923 h.) žyćcio pakazała hetaj supałcy, što jana svaju dziejnaść abniała za vuzka. Tamu statut, a razam i dziejnaść byli pašyrany; supałka pastanaviła: 1. arhanizavać bojni, ladoŭni i pierarobku kanservaŭ i kumpiakoŭ, 2. adčyniać kramy i składy svaich vyrabaŭ u Litvie i zahranicaj, 3. vyvozić kurej, žyviołu naahuł, miasa i miasnyja vyraby, 4. padyjmać žyviołahadoŭlu arhanizujučy prykładnyja haspadarki. Znača supałka, choć paŭstała dziakujučy pryvatnaj inicyjatyvie, z pryvatnym kapitałam, adnak užo na pačatku nie ahraničałasia vyklučna da handlu i pierarobki, ale pracaj svajej abyjmała i halinu kulturnuju, prapahandnuju.

U hetym-ža 1923 hodzie supałka kupiła niedaloka ad Koŭna 40 ha ziamli i pačała budavać novačasnuju bojniu, ladoŭniu i fabryku miasnych vyrabaŭ. Tut-ža była zasnavana prykładnaja haspadarka. Adnak supałka nia čuła ŭ sabie tady mocnych padstavaŭ, bo, jak vidać z spravazdačy, za dva hady miela straty 463.237 litaŭ. Straty hetyja paŭstali ad taho, što: šmat ułožana było hrošaŭ u samuju razbudovu supałkavaj haspadarki, spadak cenaŭ praduktaŭ žyviołahadoŭli, kanfiskata niekalkich vahonaŭ tavaru ŭ h. zv. polskim kalidory pa darozie ŭ Čechasłavaččynu, a tak-ža skuplivańnie žyvioły niepraktyčnymi ahientami. Hetyja niepavodžańni adnak nie adbili achvotu supałki. Było pastanoŭlena pakryć straty ŭłasnymi srodkami, a asnaŭny kapitał pavialičyć da 10 miljonaŭ litaŭ, bo na hetkuju sumu była supałka zadoŭžanaja ŭ Litoŭskim Banku.

ныя ўзнаградзілі гарачымі воплескамі. У прэзыдыюме Акадэміі засядалі прадстаўнікі суседніх коопэратываў.

Вялікай атракцыяй была спартовая частка абходу. На яе зложыліся ровэровыя выперадкі на трасе 19 клм. 350 м., каторая праходзіла праз чатыры вёскі, прыцягваючы ў кожнай з іх сотні глядзельнікаў. У выперадках гэтых бралі ўдзел 9 асоб з розных вёсак нашай аколіцы. І хоць дарога была пяскавая, з выбоінамі — адным словам палявая, — аднак праехалі яе за 49 мінут. Першае месца здабыў Бацечка Стась з Рачкан, кіраўнік спэцыяльнай крамы скураў у Ляхавічах Спажывецкага Коопэратыву „Рунь“ у Рачканах; другое месца таксама асталося за сябрам „Руні“ — Болтуцем Іванам, праехаўшым дарогу за 50 мінут; трэцяе месца ўзяў Пілецкі Вінцусь з вёскі Русаўшчына, Сінёўскай гміны — час 50 з палавінай мінуты; чацьвёртае месца здабыў Кур'яновіч Сяргей з м. Ляхавічы — час 53 мінуты, а пятае месца Болтуць Язэп — з Рачкан, сябра „Руні“, час 54 мінуты. Дзьве асобы былі здыскваліфікаваныя, а дзьве не закончылі выперадкаў.

Пасьля гэтага адбыўся бег пешы на 3 клм. 600 м. Удзельнікаў было 14 асоб. Час — 13 мінут. Першае месца здабыў Васілеўскі Уладыслаў з Рачкан, другое Ваўчок Юрка з Перахрэсьця і трэцяе Бацечка Балеслаў з Пашкоўцаў.

На заканчэньне спартовай часткі былі 4 партыі ў ігры ў шпуляка („siatkówka“): рэпрэзэнтацыя „Руні“, Пажарнай Каманды з Рачкан, Koła Młodej Wsi з Пашкоўцаў і камбінаваная група. Першае месца ўзяла партыя Пажарнай Каманды з Рачкан.

Каб больш удзельнікаў прыцягнуць да спорту — кіраўніцтва Сп. Кооп. „Рунь“ вызначыла восем нагародаў. За ровэровыя выперадкі: I месца — 8 зл., II — 6 зл., III — 4 зл., IV — 2 зл. За бег пешы: I — 6 зл., II — 4 зл., III — 2 зл. За шпуляка — адну нагароду — 6 зл. Нагароды выдаваліся чэкамі, упаважняючымі выбраць давольны тавар на азначаную суму ў крамах Сп. Кооп. „Рунь“.

Увечары адбылося сцэнічнае прадстаўленьне штукі „Сватаньне“ (пераробка Я. Патаповіча II акту штукі „Дзядзька Якуб“) і камічны абразок Янкі Патаповіча „За чаркай“. Прадстаўленьне было пераплецена дэклямацыямі. Пасьля прадстаўленьня адбываліся танцы пад гукі смычковай аркестры з Рачкан.

Сьвяткаваньне адбылося ў гумне, прыгожа ўбраным у зелень, коопэра-

---

Hetki finansavy stan supałki nia moh kožnaha zaachvocić. Adnak namierami i dziejnaściu haspadarčaj supałki pačali cikavicca arhanizacyi hramadzka-haspadarskija, a pierad usim Sajuz Litoŭskich Ziemlarobaŭ, Litoŭski Sajuz Ziemlarobskich Kooperatyvaŭ, a taksama kooperatyva „Eksimport Litvy“ („Letuvos Eksimportas“). Hetyja arhanizacyi kupili kala 3.000 akcyjaŭ i na schodzie 4 śniežnia 1925 h., aprača vybaraŭ novych uładaŭ, na čale katorych stanuŭ Jazep Tubialis (u tym časie ministr finansaŭ, a paźniej staršynia rady ministraŭ), źmienieny byŭ kirunak dziejnaści „Maistąsa“. Pastanoŭlena było apierci hetu dziejnaść na tranzakcyi śviniami, pierad usim pryjmajučy pad uvahu pierarobku bekonaŭ.

Heta źmiena kirunku była padyktavana varunkami, jakija paŭstali zahranicaj i ŭ kraju. Imienna Niamieččyna, z pryčyn palityčnych, začyniła hranicy litoŭskamu eksportu. Čechasłavaččyna, kudy jšli vialikija transparty vałovaha miasa, damahałasia śviežaha, niasolenaha tavaru, a hetkaha, z pryčyn techničnych, nia možna było padać. Inšyja dziaržavy, pierad usim vialiki rynak anhlicki — hetych praduktaŭ zusim nia pryjmaŭ. Dziela ŭsiaho hetaha treba było pierajści na kirunak praduktaŭ vysokavartasnych, asabliva biaručy pad uvahu vymahańni rynku anhlickaha.

Hetak z pryvatnaj supałki „Maistas“ pieratvaryŭsia ŭ supałku ziemlarobskuju i arhanizacyju pramysłova-handlovuju. Pry Kovienskaj fabrycy była sarhanizavana pierarobka bekonaŭ chodkich na anhlickim rynku. Ad hetaha času dziejnaść „Maistasu“ z hodu ŭ hod pačała padyjmacca. Pryjšła patreba razbudovyvać addziełý ŭ inšych vokruhach Litvy, kab hetak pašyryć i pabolšyć pradukcyju dy abniać svajej dziejnaściu cełý kraj.

U źviazku z hetymi namierami treba było zdabyć i bolšyja kapitały. Dziela taho, što hetaj halinaj pracy pačała cikavicca i dziaržava, bačačy ŭ hetym mahčy-

тыўныя сьцягі і адпаведныя лёзунгі і думкі, асаджаныя ў прыгожыя рамкі пад шкло. Асаблівую ўвагу прысутных зварочвалі спэцыяльныя, артыстычна выкананыя табліцы, прадстаўляючыя наглядным спосабам разьвіцьцё і даробак Сп. Кооп. „Рунь“ у Рачканах, і заклікаючымі прысутных арганізавацца ў коопэратыйныя хаўрусы — амаль адзіны магчымы сяньня йшчэ спосаб на нашых землях арганізацыйна палепшаць сваё матарыяльнае і духовае палажэньне і прывучаць людзей да сумеснай працы для свайго-ж дабра.

Ня гледзячы на тое, што на сьвяткаваньні было каля тысячы, а мо' і болей асоб — адбылося яно вельмі спраўна. Розгалас аб ім разьнёсься гучным рэхам па бліжшых і дальшых ваколіцах, выдатна папулярызыючы ідэю коопэратыўнага супрацоўніцтва.

Рачканы слушна гардзяцца і хваляцца сваей працай і дасягненьнямі.

**Рачканскі.**



## Гаспадарская практыка

Хоць уся блізу земляробская гаспадарка беларусаў апіраецца на самай толькі практыцы, то аднак як гэта ні дзіўна, значэньне практыкі ў нас вельмі недацэньваецца. Скрозь і ўсюды яшчэ людзі хочуць гаспадарыць, „як дзяды гаспадарылі“. Можна, праўда, ужо часам сустрэць на вёсцы адну-другую кніжку аб земляробстве, але сапраўды-ж ня чуваць, каб нашы людзі вучыліся гаспадарыць **адзін ад другога.** Ці гэта вытлумачыць трэба недаверам чалавека да чалавека, ці фальшывым пераканаьнем, што „толькі я раблю добра, а ён да нічога ня здатны“, ці мо' яшчэ чым іншым, — цьвердзіць тут напэўна ня можна: найхутчэй ёсьць тут усяго пакрысе, ня выключаючы нават і зайздрасьці, каб хто іншы „не ўзбагаціўся“ маімі пазнаньнямі. Гэта апошняе шырака стасуецца ў фабрыках, але ў земляробскіх гаспадарках гэта ёсьць брыдкае самалюбства. Бо каб так паступалі ўсе людзі, то мусіць і да сягоньня йшчэ аралі б — замест плугу, яловай рагацінай...

Але вернемся да часаў навейшых і найнавейшых.

З настаньнем вясны ў фаховых гаспадарскіх часапісах культурных наро-

maści haspadarskaj ekspansii ŭnutry kraju i zahranicaj — paŭstaŭ tady prajekt, kab kazna vykupiła čaść supałkavych akcyjaŭ dy kab dała finansavuju pomač na razbudovu novych bekoniarniaŭ.

Hety prajek byŭ pryniaty i dnia 22 krasavika 1930 h. byŭ zaćvierdžany novy i apošni statut „Maistasa“. Ciapier nazoŭ jahony skaraciŭsia na „Akcyjnaje Tavarystva Maistas“. Asnaŭny kapitał byŭ pavialičany da 13 miljonaŭ litaŭ. Bolšaść akcyjaŭ pierabrała kazna, apracа taho pastanoŭlena, kab pry zakupach syrca adličać ad sialan peŭny pracent dziela zakupu akcyjaŭ. Hetym naznačany byŭ plan, kab u budučyni ŭsie, abo prynamsi bolšaja čaść akcyjaŭ apynułasia ŭ rukach ziemlarobaŭ, pradućentaŭ bekonavaha syrca.

Ad hetaha času praŭnaja starana „Maistasu“ ŭstaliłasia i pačałasia praca nad pašyreńniem vytvorstva i eksportu. Najvažniejšaj zadačaj astałosia bekoniarstva. Adnak nie abminuli taksama skupu, pierarobki i eksportu śviniej słaninavych, skaciny, kurej, husiej, kačak i ŭrešcie — trusoŭ.

Ciapier, apracа Kovienskaj fabryki na Aleksocie, isnujuć jašče fabryki ŭ Kłajpedzie, Šaŭlach, Panieviežy i ŭ Taŭrogach. Usie jany majuć svaje addzieły. Apošnim časam „Maistas“ mieŭ svoj handlovy fłot, katory ciapier pierajšoŭ da novasarhanizavanaha transportnaha tavarystva.

Kab vyraźniej pabačyć pracu „Maistas'a“, zaznačma, što razrastańnie jaho pačałosia ad 1930 h., kali pačałasia pradukcyja bekonaŭ. Apracа bekonaŭ „Maistas“ tak-ža skuplivaje skacinu i chatniuju ptušku. Napr. u 1937 h. było skuplena 204.934 štuki kuraniat, 75.142 indyki, 108.500 husiej i 43.441 kačak. Kab hetuju ptušku pryhatavać na eksportny tavar, „Maistas“ kormić jaje ŭ adumysłovych chlaŭkoch. Ad 1934 h. „Maistas“ pačaŭ skuplivać i vyvozić zahranicu trusoŭ. Ciapier z kožnym hodam hadoŭla trusoŭ pavialičvajecca i heta asabliva drobnym

даў многа і многа ёсьць абвестак аб шуканьні і аб прапанаваньні землябробскіх практык. І гэта не надарма. Сынычкі з найлепшых, найсільнейшых нават гаспадарак ідуць у гаспадаркі чужыя на правох звычайных хоць-бы работнікаў ці парабкоў; часта аднак выменьваюцца гэтак сем'і сваімі дзяцьмі.

Нашто ўсё гэта? — А па тое, каб пабыўшы „ў людзях“ і ад іх пазнаць лепшыя способы гаспадаркі. Пэўна-ж, што найлепш папасьці на практыку ў гаспадарку добрую, нават у прыкладную. Але і ў слабейшай заўсяды можа знайсьціся нешта, што прыдасца ў пазьнейшым жыцьці, а што там трапіцца горшае, таго й так ня толькі ніхто стасаваць у сябе ня будзе, але і здалёку будзе яго абмінаць. А гэта ў жыцьці ня мала знача.

Гэтак у людзей. А што ў нас? Чамусьці так склалася, што тут ня толькі нічога такога не спаткаем, але калі-б нейдзе нехта нешта такое зрабіў, дык яго мусіць парахавалі-б як памяшанага на розум. Так! Ісьці да каго на дармавую(!) службу — не! Гэта нешта такое, што ня месьціцца нашаму чалавеку ў галаве. І ў гэтым цэлая бяда. Тут якраз патрэбны пералом. Зразумець трэба, што калі так як і няма гаспадарскага школьніцтва, калі так цяжка аб добрую родную газэту ці кніжку, у гэткую пару добра абдуманая і праведзеная практыка гэта адзіны способ сапраўднага здаровага поступу ў нашай гаспадарцы.

Другая справа гэта гаспадарскія экскурсіі — ўзаемнае адведываньне суседніх і дальшых гаспадарак. Экскурсіі гэткія ў гаспадарскі хлеў, у гумно, у сад, агарод, на поле ці сенажаць, у лес, да рыбных ставоў — усё гэта надта карыснае і павучальнае, асабліва, калі знайдзецца нехта, хто аб усім бачаным патрапіць рачова і ясна расказаць. — Цяперашні час па сяўбе і прад сенакосам да гэткіх экскурсіяў вельмі прыдатны. Тымбольш, што ўсё гэта ня зьвязана з ніякімі выдаткамі, ані нават з патрэбай належаньня да нейкай арганізацыі.

Урэшце йшчэ адзін способ нагляднай навукі — гэта гаспадарскія выстаўкі. Гэты способ, пашыраны ў краёх з высокай культурай, у нас тымчасам таксама блізу няведамы. Патрабуе ён аднак і арганізацыйнага апарату і што можа важнейшае — грошай. Дык на пачатак прыходзіцца агранічыцца да пунктаў першых двух: **практыка і экскурсіі** — і імі поўнасьцю карыстацца.

**В. З.**

---

haspadarkam daje dobry dachod. Skuplivańnie skaciny davoli ŭtrudniena tym, što ciažka znajści kupca na jejnaje miasa. Za apošnija dva hady adnak i tut zaznačyŭsia postup na lepšaje, bo z hetaha miasa pačali vyrablać kanservy.

Jak vialikaje značeńnie maje „Maistas“ dla krajovaj haspadarki, vidać choć by z taho, što praz jaho jdzie kala 25 prac. usiaho ekșportu Litvy.

Skazana było ŭžo, što „Maistas“ zajmajecca ciapier pierarobkaj miasa na kanservy. Dadać da hetaha treba, što kanservy hetyja vyrablaje „Maistas“ takža i z takich haspadarskich raślin, jak: ahurki, morchva, fasola, pamidory. Usie hetyja kanservy iduć najbolš zahranicu: u Anhliju, Ameryku, Palestynu. a tak-ža ŭ anhlickija i francuskija kalonii.

Vyvoziačy bolšuju čaść svaich vyrabaŭ zahranicu, „Maistas“ nie pakidaje i rynku ŭnutranaha, zn. litoŭskaha. Maje jon na heta ŭ kraju 48 kramaŭ, u katorych pradaje svaje sobskija vyraby hurtam i ŭ detalu. Hetyja abaroty na ŭnutranym rynku z kožnym hodam padyjmajucca.

Pry kancy treba ŭspomnić, jakaja stasujecca technika pry skuplivańni syrca ad ziemlarobaŭ. Vot-ža skuplivańnie adbyvajecca hetak: u fachova-ziemlarobskaj presie i ŭ radio abviaščajecca termin (dzień i hadzina) i miesca (kali i dzie) i jakaja žyvioła budzie skuplivacca. U naznačanym časie i miescy pryjaždžajuć ahienty „Maistas'a“ i skuplivajuć pryviezieny syrec. Kožnaja štuka žyvioły važycca i znakujecca. Naležnaść vypłačvajecca zaraz-ža, ale nia ŭsia, bo ahient nia moža na miescy zaraz pravilna acanić kožnuju štuku. Robicca-ž heta tolki ŭ bekoniarni, paśla taho, jak syrec pierarobicca na tavar, aznačycca hatunak, vaha i vartaść dadzienaj štuki. Tady aznačajecca dapłata, jakuju sielanin najčaściej dastaje praz miascovuju kooperatyvu.

„*Tyg. Rol.*“

**inž. J. J.**

# Ратунак ад граду

Сьцюдзёную вясну замяніла гарачае на пачатак лета. А што ў сярэдзіне ліпня прыходзяць да нас буры і навальніцы, аб гэтым кожнаму ведама. Найгорш аднак, калі разам з гэтым прыйдзе град. Здараецца гэта ў нас, праўда, ня так часта, але бывае.

Што такое град і чым ён небясьпечны, кожны ведае. Горш затое з спосабамі барацьбы з гэтым-жа градам. У тых старонках, дзе град здаўна робіць частыя спусташэньні, людзі стараліся ўсімі сіламі разганяць градавыя хмары, стасуючы пры гэтым хваляваньне паветра. Спачатку — званілі ў званы, пасьля (18 стагодзьдзе) ў Францыі будавалі высокія вежы; у канцы мінулага стагодзьдзя ў Аўстрыі прабавалі разаганяць градавыя тучы, страляючы ў іх з адумысных гарматаў. У 1903 годзе былі пробы разганяць градавыя тучы пры помачы хваляў электро-магнэтычных, высыланых тады ўжо з малых радіонадавальных станцыяў.

З усяго гэтага аднак калі была якая карысьць, дык хіба толькі тая, што людзі больш цікавіліся і прыглядаліся да самага граду, пазнавалі калі ён дзеіць мацней, а калі слабей. Сьцьвердзілі напр., што град прыходзіць найчасьцей з бурай, у часе якой веюць сільныя вятры, каторыя пры гэтым вельмі часта мяняюць свой кірунак. Кірунак і сіла граду залежна ад сілы і кірунку вятроў. Чым больш укосна падае на зямлю град, тым большая ягоная сіла і тым большыя робіць ён спусташэньні. Больш практычнага ў гэтым кірунку людзі дагэтуль нічога не знайшлі.

Знайшлі затое спосаб ратавацца ад згубных насьледкаў градабіцьця, спосаб ня гэтулькі танны, колькі пэўны. Гэтым спосабам ёсьць страхоўка. Па іншых старонках ёсьць танныя самадапамаговыя страхавыя супалкі. У нас такіх супалак няма. Ёсьць толькі ведамы PZUW (Powszechny Zakład Ubezpieczeń Wzajemnych), які сьцягівае прымусовыя складкі за страхоўку гаспадарскіх будынкаў. Гэты самы PZUW вядзе так-жа і аддзел страхоўкі ўраджаяў ад градабіцьця. Дзякуючы стараньням заінтэрэсаваных асоб і арганізацыяў, PZUW згадзіўся прызнаць ніжэйшую (таньнейшую) таксу за страхоўку ўраджаю ад градабіцьця, але толькі ў тых выпадках, калі з аднэй вёскі знойдзецца ахвотных прынамся **пяць** гаспадароў. Дзе гэткія ахвотныя знойдуцца, там маюць права яны да 20 проц. спуску ад страхавых складкаў.

Падаючы гэту апошнюю вестку аб страхаваньні ўраджаяў ад градабіцьця, мы далёкія ад таго, каб кожнага заахвочываць да страхаваньня. Але для тых, хто мае збожа добрае, а поле ягонае ляжыць у паласе градавой — град звычайна паўтараецца ў тым самым месцы, — таму страхоўка, можна сказаць, заўсяды аплаціцца. Згары толькі трэба быць прыгатаваным, што за страхоўку ў паласе градавой складкі будуць большыя, чым у паласе ад граду больш-менш вольнай.

Дастаць падрабязныя інфармацыі аб страхоўцы ад градабіцьця, а так-жа правесьці самую страхоўку можна праз паветавых інспэктароў PZUW, якія знаходзяцца ў кожным паветавым месьце.

К.

# Як гаспадарыць на няўжытках

У нашым краю зямлі вольнай, няпрыгоднай пад гаспадарскую ўправу, і дагэтуль неабраблянай, блізу што няма. А і на тое, што часам вырываецца з рук такіх ці гэткіх абшарнікаў, найчасьцей прыяжджаюць людзі чужыя. Тымчасам здараюцца йшчэ сям-там абшары няўжыткаў, з каторых ніякай карысьці ніхто ня мае. Не гаворым ужо тут аб голых скалах, на каторых ніякая гаспадарка немагчымая. Але мы маем шмат тарфянішчаў, пяскоў, грунтоў замоклых і падмоклых і г. д. Некаторыя з іх могуць і павінны быць заменены на ўжыткі земляробскія: ворнае поле, сенажаці, пасьбішчы, лясы і г. д.

Возьмем пад увагу сыпучыя пяскі. Паявіліся яны звычайна на месца вырубаных лясоў, а ведама, што звычайна пад лесам знаходзяцца найчасьцей глебы найгоршыя. Калі лес рос на грунце пяшчаным, вельмі лёгкім і сухім, дык па вырубаньню яго і па выкарчаваньні пнёў зямля да глыбіні ўспульхняецца. Зямля гэткая, з прыроды бедная на ваду, высыхае дашчэнту і замяняецца ў сыпучы пясок. Вецер носіць дробныя

пяшчынкі з месца на месца, засыпаючы палі і творачы ў рэках мялізны. Натуральна, гэткі сыпучы (лётны) пясок ня толькі не дае земляробу ніякае карысьці, але засыпаючы поле часта робіць паважныя шкоды.

З гэтых прычын земляроб усімі сіламі павінен змагацца з сыпучымі пяскамі, недапускаючы перад усім каб яны паўставалі, а ў разе паўстаньня — да замены іх на аромае поле. Дзеля гэтага па вырубаньню лесу ня можна сьпяшацца з карчаваньнем, каб не псаваць будовы глебы, але зараз-жа старацца засаджваць лес нанава. Глеба пад лесам растучым ніколі не заменіцца на сыпучы пясок. Ападаючае лісьцё ці шпількі дрэваў хвойкавых твораць даволі грубы верхні пласт, які пакрывае пясок і не пазваляе ветру разьвяваць пясок. Ды і без таго ў лесе зацішней, чым у адкрытым полі і таму растучыя дрэвы гэта найлепшы спосаб процiў пяшчаных выдмаў.

Калі-б на ўсё гэта земляроб не зьвярнуў увагі, асабліва калі-б дапусьціў да тварэньня сыпучага пяску, дык трэба з ім змагацца. Вятры ў нас найчасьцей веюць з захаду на ўсход, дзеля гэтага ўпоперак гэтага кірунку, а знача з паўдня на поўнач, стаўляюць з хрусту платы. Вецер, нясучы пясок, натрапляе на плот, траціць на сіле і таму пясок падае за плотам на зямлю, творачы гэтак малыя гарбы і ўзгоркі, але не пераносячыся далей. Добра так-жа, калі засеяць на такіх пяскох траву, якая расьце на сухіх мясцох. Травы гэткія як паша ня маюць ніякай вартасьці, але каранямі сваімі толькі ўмацоўваюць паверхню і не пазваляюць ветру ўздыймаць зярняты пяску.

Найлепшым аднак, хоць і вымагаючым пэўных коштаў грашовых, ёсьць спосаб — лясны, г. зн. засаджваньне пяскоў лесам. Адразу аднак засаджваць лесу ня можна, бо вецер вывее ня толькі насеньне, але і самыя маладыя расьлінкі (дрэўцы). Пачынаць трэба ад умацаваньня верхняга пласту. Дзеля гэтага ўперад садзяць вербу, якая ёсьць цэнным матар'ялам да вырабу плеценых мэбляў, кошыкаў і г. д. З гэткай плянтацыі вербы можна мець добры даход. Калі вербу маем гадаваць на большым абшары, дык у выараную баразну ўкладаем малыя розачкі вербы і прыкрываем ськівай наступнай баразны. Работа йдзе шыбка, верба лёгка прыжывае. Усю такую плянтацыю можна ўжываць праз пару гадоў, у працягу якіх зямля пасьпее ўмацавацца. Калі кончыцца час ужыткаваньня вербы (плянтацыі можна перанесьці на іншае месца), тады паміж іхнімі радамі садзім сасну. Кустоў вярбы ня трэба нішчыць ані выкідаць, бо яны будуць ахаронай для маладога сасьняка.

Калі сухая толькі самая паверхня пяску, а вада знаходзіцца ня вельмі глыбака, дык можна абыйсьціся і без умацаваньня пяску пры помачы вербы. Але трэба тады пасадзіць такія дрэвы, як сасна, карлаватая бяроза ці акацыя, каторыя лёгка прыймаюцца і хутка разрастаюцца ў густы зарасьняк. Гэта бароне пясок ад уздыйманьня з ветрам. Ня трэба даказваць, што лес на гэткім няўжытку, хоць — асабліва калі пасадзіцца сасна — трэба на яго доўга чакаць, дае вялікую карысьць,

Гэта толькі адзін з шмат якіх іншых спосабаў абгаспадарваньня няўжыткаў. У мінулым (за м-ц май) нумары „Самапомачы" ўспаміналася аб гадоўлі рыбы, да чаго вельмі прыгодны мясцы па выбраным торфе. Усёж разам паказвае, што сапраўдных няўжыткаў ёсьць так мала, што іх можна і ня лічыць. А калі няўжыткамі называем шмат якія грунты, на якіх не расьце напр. збожа, дык гэта толькі паказвае, што гаспадарыць сапраўды ня ўмеем. Сьветлы гаспадар ведае, што глеба можа не радзіць збожа і аднак ня быць няўжыткам. Усё залежа ад таго, да чаго сам гаспадар гэту зямлю празнача.

**С. Я—віч.**

# Бяленьне аўсянага калосься

На ніве зусім яшчэ зялёнага аўса часта можна пабачыць зусім белыя пустыя вехі. Робіць гэта ўражаньне аўса быццам прад часам дасьпелага. Сапраўды-ж гэта аўсяная хвароба, якая называецца бяленьнем калосься. Дагэтуль думалі, што прычынай гэтага зьяўляюцца такія шкоднікі, як гэсская муха, якія шкодзяць зародку зярняці і не даюць яму дасьпець. Апошнім часам аднак паказалася, што шкоднікі гэтыя, праўда, могуць давесьці да бяленьня калосься,

